


# Беларус

**75-ГОДЗЬДЗЕ!**
Менск, 25 сакавіка 1918 г.
**«Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнаю і вольнаю дзяржавай».**
**Рада БНР**

**№ 408 Сьнежань 1993**
Год выд. 42

**BIELARUS** / Belarusan Newspaper in the Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.
Address: P. O. Box 178, Jamaica, N.Y. 11432, U.S.A. Price $2.50





## Слуцкі Збройны Чын
### ў Гайлянд Парку, Нью Джэрзі

*(Урыўкі з дакладу д-ра Вітаўта Кіпеля)*

Дакладчык адзначыў, што Слуцкі Чын, гэта падсумаваньне пройдзенага нацыянальна-дзяржаўніцкага адраджэньня у пэрыядзе ад 1905-га да 1920 году ды гэтаксама лёс Слуцкіх Змагароў — гэта пачатак эміграцыйнага шляху беларускага вайскоўства пад сьцягам БНР.

Асноўныя этапы — вехавыя слупы нацыянальнае дзейнасьці ў тым пэрыядзе гэткія:

**1917 год:**

**сакавік** – Беларуская Палітычная Канфэрэнцыя ў Менску ды стварэньне Беларускага Нацыянальнага Камітэту.

**ліпень** – палітычная нарада ў Менску і сфармаваньне Цэнтральнае Рады беларускіх партыяў і арганізацыяў, якая пераняла функцыі БНК.

**сьнежань** – Усебеларускі Кангрэс у Менску

**1918 год:**

арганізацыя беларускае мясцовае ўлады.

**люты** – нямецкая армія займае Менск. Суіснаваньне беларускае адміністрацыі і нямецкае акупацыі.

**25 сакавіка** – абвешчаньне Беларускай Народнай Рэспублікі. Беларуская адміністрацыя дзейная па ўсёй Беларусі.

**сьнежань** – немцы адыходзяць зь Менску і зь Беларусі.

**1919 год:**

**1-га студзеня** ў Смаленску абвяшчаецца БССР

**студзень-люты** – Чырвоная Армія займае Менск і Беларусь ды абвяшчаецца ЛітБел.

На тэрыторыі Беларусі пачынаюцца антыбальшавіцкія паўстаньні (Гомельшчына, Барысаў, Вяліж)

**жнівень** – палякі акупуюць Менск і значную частку Беларусі. Рада БНР вядзе перамовы з палякамі, але без дадатных для Беларусі вынікаў. У бальшыні мясцовасьцяў улады застаюцца беларускімі, шмат дзе пад моцным уплывам эсэраў. БНР праводзіць актыўную дыпляматычную дзейнасьць вонкі Беларусі.

**1920 год:**

**ліпень** – палякі адыходзяць зь Беларусі. На мясцох улада застаецца беларуская. Пачынаецца падрыхтоўка да выбараў. Бальшавікі абвяшчаюць шасьці павятовую БССР.

**кастрычнік-лістапад** – Случчына актывізуецца і на зьездзе Случчыны ў лістападзе выносіцца пастанова заставацца вернымі беларускай уладзе — адзінай легальнай для беларускага народу ўладзе.

Фармуюцца вайсковыя адздзелы і напрыканцы лістападу пачынаецца змаганьне.

Абарона часткі беларускае зямлі — часткі Беларускай Народнай Рэспублікі перад наступаючай Чырновай Арміяй.

Змаганьне Случчакоў за ідэалы БНР было кароткатрывалае, але паказальнае для нацыянальнае гісторыі. Беларусы паўсталі бараніць тыя прынцыпы, якія былі апавешчаныя беларускім нацыянальным адраджэньнем — адраджэньне Беларускае Нацыянальнае Дзяржавы. Падзеі на Случчыне — гэта не паўстаньне, а гэта, як выказвалася раней — Фронт Беларускае Народнае Рэспублікі у змаганьні з камунізмам. І калі можна сьцьвярджаць, што камунізм, пражыўшы блізу 70 гадоў, сёньня скончыўся, дык Незалежная Беларуская Дзяржава дасюль яшчэ не адроджаная.

Слуцкае змаганьне адыйшло ў гісторыю. Слуцкія ўгодкі пачалі адзначацца як памятная дата нашае новае гісторыі. Праўда, адзначаючы гэтыя ўгодкі на Бацькаўшчыне, ня было аднагодласьці што да ацэны тых падзеяў — былі асобы, партыі і плыні, якія не цалкам аб'ектыўна насьвятлялі падзеі на Случчыне; на бальшавіцкім-жа баку наагул аб падзеях на Случчыне не ўспаміналася, а калі і ўспаміналася дык як аб «невялічкім, кулацка-эсэраўскім, прапольскім мяцежы». Адзінае крыло беларускае нацыі — эміграцыя — правільна ацаніла падзеі на Случчыне. У Злучаных Штатах Амэрыкі, пачынаючы ад 1923 году, падзеі на Случчыне адзначаліся, аналізаваліся, дакумэнтаваліся. Эміграцыя, як у ЗША, гэтак і ў Заходняй Эўропе выдрукавала дзесяткі працаў, дакмэнтальных нарысаў удзельнікаў Збройнага Змаганьня на Случчыне — айца Фёдара Данілюка, Івана Наўмчыка, Лявона Рыдлеўскага, Аляксея Кабычкіна, Юркі Харытончыка ды іншых. Аб Слуцкім Збройным Чыне напісаны працы ў ангельскай, нямецкай, францускай і іншых мовах. Падзеі на Случчыне занесеныя ў аналы Кангрэсу

*(Працяг на б. 6)*

## КАЛЯДНАЕ АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ

**Дастойнаму сьвятарству і ўсім багалюбным праваслаўным вернікам Беларускага Народу**

Дарагія Браты й Сёстры!

ХРЫСТОС НАРАДЗІЎСЯ!

Сьвяты дзень нараджэньня Хрыстовага весьціць нам і ўсяму сьвету аб прыйсьці Божага ратунку. Гэта ня толькі дзень нашае радасьці, веры й надзеі, але й роздуму над вартасьцяй нараджэньня Караля каралёў, Хто прынёс новую мараль жыцьця чалавеку і заклікаў яго да высокага духовага ўзроўню. Госпад наш Ісус Хрыстос зыйшоў ня зямлю, каб ратаваць ад загубы людзей. Госпад і Ратаўнік наш Ісус Хрыстос перасьцерагае Сваіх вучняў і апостала, кажучы: «І ня бойцеся тых, што забіваюць цела, а душы забіць ня могуць, а больш бойцеся таго, хто можа душу й цела загубіць у пекле» (Мц. 10:28).

Царква ёсьць душою народу. Хто пануе над царквою, той пануе над народам. Гэта мы ведаем з гісторыі, калі ў 15-м сталецьці грэцкая палітыка не заўсёды ішла ўсьлед за маскоўскай палітыкай, Масква ў 1448 годзе вырашыла выйсьці з-пад уплыву грэкаў ды стварыла сваю незалежную ад Канстантынопальскага Пытрыярхату царкву, на чале з мітрапалітам Ёнам. І Маскоўская Мітраполія пратрывала некананічай 140 гадоў аж да 1588 году. Расейская Праваслаўная Царква была й надалей засталася прыладзьдзем дзяржаўнай палітыкі Расеі. Маскоўская Патрыярхія супрацівіцца утварэньню Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў Беларусі. Каб заглушыць яшчэ ў зародку добрую й здаровую думку пра аўтакефалію сеюць кукель у нашую пшаніцу ды нам кажуць, што царкоўна-славянская мова незаменная ў царкве. Але хто так кажа, той грэшыць цупраць Сьвятога Духа. Бо як можна тлумачыць словы Сьвятога Пісьма, у якім сказана, што калі зыйшоў Сьвяты Дух на апосталаў і яны навучалі народ, дык то людзі былі з многіх краін, а кожны зь іх казаў: «чуем іх, нашымі мовамі гавораць пра вялікія справы Божыя» (Дзеі 2:11).

Госпад і Ратаўнік наш Ісус Хрыстос навучаў Сваіх апосталаў і вучняў: «Сьцеражэцеся закісі хварысейскае й садукейскае»? (Мц. 16:11). Госпад перасьцерагаў не перад хлебнай закісьсю, але хварысейскай крывадушнасьцю (Лк. 12:1) і перад хвальшывай навукай іхнай, калі Ён казаў, што прыдуць хвальшывыя пракрокі ды будуць старацца хвальшыва гаварыць, не выяўляць праўду, каб падмануць (Мц. 24:24).

Хрыстос прыйшоў на зямлю, каб ратаваць людзей зь няволі грэху й весьці іх да вышэйшага духоўнага ўзроўню. Душа нашага народу — Праваслаўная Хрыстовая Царква — пад чужым уплывам. Лёс нашае Царквы вырашаецца ня ў нашай Бацькаўшчыне. Але як прыйшоў канец сьвецкаму панаваньню над царквой, гэтак прыдзе канец і чужому ўплыву ў царкве.

Дарагія мае, нам патрэбная нязломная вера, гарачая малітва й моцная сіла духу. Наш Госпад і Ратаўнік Ісус Хрыстос кажа нам: «У сьвеце будзеце мецць гора, але будзьце адважныя. Я перамог сьвет» (Ян 16:33). У Сьвятым Пісьме апостал Павел кажа: «Вера ёсьць ужыцьцяўленьне спадзяванага» (Жыд. 11:1). Будзем жа маліцца, каб не паменшала вера нашая ў Госпада Ісуса Хрыста, Які прыйшоў ратаваць сьвет. І Ён жа кажа нам: «Ад дзён Яна Хрысьціцеля аж дагэтуль валадарства нябеснае здабываюць сілаю, і дужыя захапляюць яго» (Мц. 11:12). Вось чаму мы ня можам злажыць рукі, а мусім дзеіць бо: «Вера бяз ўчынкаў мёртвая», кажа нам сьв. ап. Якуб (Як. 2:17).

У гэты вялікі сьвяточны дзень, дарагія мае, зьвернем свае сэрцы й думкі да Князя супакою, Ратаўніка нашага, падзякуем Яму за дабрыню Ягоную, адновім веру ў Яго да выкажам свой хрысьціянскі сьвяты абавязак перад сваім народам. Няхай жа дзень Нараджэньня Хрыстовага будзе радасным сьвятам усім Вам і Божае дабраславеньне з ўсімі Вамі.

Хрыстос нарадзіўся — Яго слаўце!

Каляды 1993 г.
Таронта, Канада

**Архіяпіскап Мікалай**
**Першы Ярарх БАПЦ**

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 25 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 25 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## ПРЫВІТАНЬНІ З БАЦЬКАЎШЧЫНЫ ЎДЗЕЛЬНІКАМ АДЗНАЧЭНЬНЯ СЛУЦКІХ УГОДКАЎ

*ДАРАГІЯ СУРОДЗІЧЫ!*

*У дні гадавіны Слуцкага збройнага чыну прымеце нашыя вітаньні.*

*Слуцкае паўстаньне 1920 году было збройнаю барацьбою Беларускае Народнае Рэспублікі супраць бальшавіцкай імпэрыі. Зьяўленьне Слуцкага фронту БНР засьведчыла ўсяму сьвету, што, нягледзячы на злачынны падзел нашай зямлі паміж двума імпэрыялістычнымі драпежнікамі, Беларусь жыве. Героі Случчыны «пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына», яны баранілі маладую беларускую дзяржаву, баранілі будучую незалежную, вольную, дэмакратычную Беларусь.*

*Сьведамыя беларусы на чужыне зьберaглі ўдзячную памяць пра Слуцкі чын, урачыста адзначаючы кожныя яго ўгодкі, публікуючы з году ў год успаміны, дакумэнты, навуковыя дасьледаваньні. Сьведамыя беларусы на Бацькаўшчыне захоўвалі памяць пра Слуцкі фронт у сэрцах. Гэтая памяць натхняе на ахвярную працу дзеля дабра Беларусі, але і на пільнасьць, і на палымнае змаганьне, бо ворагі незалежнасьці, непрыхільнікі беларускага Адраджэньня ўсё яшчэ маюць сілу.*

*Беларускі Народны Фронт адзначае Слуцкія ўгодкі ўрачыстасьцямі ў мясьцінах паўстаньня, у сталіцы, у іншых гарадах. Семежава і Грозава, Цімкавічы і Слуцак, уся Беларусь наноў спазнаюць праўду пра падзеі 1920 году. Разам з героямі Грунвальду й Воршы героі Случчыны нагадваюць нам пра лепшыя рысы беларускага нацыянальнага характара — годнасьць, самаадданасьць і патрыятызм. Будзьма-ж вартыя іх!*

*Зачым Вам, дарагія суродзічы на чужыне, посьпехаў у Вашых справах і працы дзеля дабра нашай Бацькаўшчыны. Жыве Беларусь!*

*Прынята Соймам Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» 13 лістапада 1993 году г. Менск*

*ДАРАГІЯ СУРОДЗІЧЫ!*

*Семдзесят тры гады таму назад, лістападаўскімі днямі, Рада Случчыны пад старшынствам адваката У. Пракулевіча прыняла рашэньне збройнай сілай бараніць родную зямлю ад няволі, падзелу дужымі суседзямі. На покліч народных абраньнікаў, кінуты ў старажытным беларускім горадзе, дружна адгукнулася Случчына і сумежныя зь ёй паветы. На прызыўныя пункты засьпяшалася патрыятычная моладзь. Афіцэры-случчакі арганізавалі два палкі, злучаныя ў Першую Слуцкую брыгаду войск Беларускай Народнай Рэспублікі. Слуцкія ваяры, уздымаючы сьцяг змаганьня за незалежную і непадзельную Беларусь, натхняліся Актам 25 сакавіка 1918 году, які аб'яўляў нашу Бацькаўшчыну сувэрэннай краінай. Больш месяца слуцкія паўстанцы 1920 году адстойвалі свабоду сваёй зямлі, аплачвалі яе дарагой цаной — уласнай крывёю.*

*Слуцкі збройны чын залатымі літарамі ўпісаны ў гісторыю беларускага палітычнага вызваленьня. Мужнасьць і самаахвярнасьць слуцкіх паўстанцаў і сягоньня сьветла азываецца ў сэрцах усіх, каму няволя не выстудзіла душы.*

*Памяць аб адважных случчаках, што 73 гады таму назад са зброяй у руках усталі на абарону свабоды і сувэрэннасці Беларусі, дарагая для тых, хто сёньня рупіцца на адбудове дзяржаўных падвалін нашай шматпакутнай Бацькаўшчыны, адраджае яе духоўнасьць.*

*З 73-мі ўгодкамі Слуцкага паўстаньня!*

*Слава барацьбітам за незалежнасьць беларускага народу.*

*Жыве Беларусь!*

***Управа Згуртаваньня беларусаў сьвету «Бацькаўшчына»***




*З жыцьця ў Чыкага*

## СЬВЯТКАВАНЬНЕ СЛУЦКАГА ЧЫНУ

Дзень Слуцкага Чыну, 73-ю гадавіну, адсьвяткавала Беларуска-Амэрыкамя Нацыянальная Рада разам з парафіянамі беларускай праваслаўнай царквы парафіі Сьв. Юрыя. Сьвяточнай урачыстасьцю кіраваў старшыня БАНР М. Каленік, рэфэрат на тэму дня прачытаў сакратар Рады М. Латушкін.

Пасьля паніхіды, якую адслужыў а. Якуб за тых, хто аддаў жыцьцё за волю Беларусі, адбылася трапеза — абед са сьвяткавальнай праграмай: адкрыцьцё, адыграньне амэрыканскага нацыянальнага гімну, ушанаваньне памяці загінуўшых, рэфэрат, хаўтурны марш «Сьпі пад курганам герояў», які прасьпяваў М. Калінік, беларускі гімн «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

**Мікалай Латушкін**

**Палкоўнік Канстанцін Езавітаў, 1944 год**

# Славутае Слуцкае Народнае Змаганьне



*К. Езавітаў у сваім кабінэце, у школе на Чырвонай Дзьвіне ў Рызе.*

У нашай публіцыстыцы, а нават і ў некаторых гістарычных працах, якія закранаюць падзеі канца 1920 году на Случчыне, усе аўтары неяк ужо прызвычаіліся называць гэтыя падзеі Слуцкім Паўстаньнем. Мы ня хочам тутака зьмяняць гэты ужо усім ведамы назоў і ламаць гэтае, усімі ужо прынятае традыцыі, аднак ня можам не адначаваць, што назоў гэты ня ёсьць цалком правільны. Тое, што адбылося у 1920 годзе на Случчыне, фактычна было не паўстаньнем супроць ураду, бо паўставаць можа народ, або войска супроць сваіх правадыроў і улады, якую яны перад гэтым, хаця-б нават і кароткі час, лічылі сваёю і якой спачатку падпарадкаваліся. Вось-жа, што датычыць Беларускага Народу у цэлым, а случчакоў у асабліваці, дык увесь народ наш, і асабліва-ж случчакі, ніколі не прызнавалі бальшавіцкай улады, ніколі не жадалі ёй падпарадкавацца і заўсёды змагаліся зь ёю за сваю нацыянальна-дзяржаўную незалежнасьць. Слуцкія падзеі фактычна былі народнаю вайною, якую случчакі пад кіраўніцтвам сваіх собскіх арганізацыі і камандзіраў і пры удзеле афіцыйнага прадстаўніка ураду Беларускай Народнай Рэспублікі, паспрабавалі вясьці супроць наступаўшых на Беларусь войскаў РСФСР.

Як-жа разьвіваліся падзеі на Случчыне ў лістападзе і сьнежні 1920 году?

Пасьля таго, як увосень 1920 году савецкія арміі былі адбітыя з-пад Варшавы і, пры удзеле беларускіх частак гэнэрала Булак-Балаховіча, адсунутыя з Польшчы, у Заходняй Беларусі і у Меншчыне аднавілі працу беларускія мясцовыя арганізацыі, а нацыянальны эміграцыйны урад Беларускай Народнай Рэспублікі зараз-жа паслаў ува усе галаўнейшыя цэнтры звольненай часткі Беларусі сваіх упаўнаважных прадстаўнікоў. Прадстаўнікі гэтыя павінны былі дзеіць патёмна, бо польскія ўлады былі супраць незалежнасьці Беларусі, а значыць і супраць ураду БНР.

12-га кастрычніка 1920 году у Рызе была падпісаная прэлімінарная ўмова паміж РСФСР і Польшчай. Умова гэтая дзяліла Беларусь. Эміграцыйны урад Беларускай Народнай Рэспублікі, супольна з урадам Украінскай Народнай Рэспублікі і урадам Галіччыны, склалі у Рызе войстрыя пратасты супроць гэтага падзелу, а адначасна далі загад сваім прадстаўнікам, каб яны арганізавалі на мясцох збройнае змаганьне за незалежнасьць сваіх краінаў і каб бараніліся супроць абодвух акупантаў.

Вайна на тэрыторыі Беларусі працягвалася ужо 6 гадоў, яна вялася спатчатку паміж царскай Расеяй і кайзэраўскай Нямеччынай, пасьля паміж рэвалюцыйнай Расеяй і Нямеччынай, нарэшце паміж савецкімі і польскімі ды беларускімі нацыянальнымі войскамі. Народ стаміўся і лятуцеў аб супакоі. Аднак, калі вестка аб падзеле Беларусі у Рызе дайшла да беларускага народу, ён здрыгануўся ад роспачы і гневу, а лепшая частка яго зразумела, што супакою на Беларускай Зямлі яшчэ наступіць ня можа, што змаганьне ня скончылася, а фактына толькі яшчэ пачынаецца у новай стадыі і ў новай форме.

Асаблівае абурэньне было у Віцебшчыне, у Меншчыне, у Случчыне і у Гомельшчыне, якія згодна з Рыскаю умовай павінны былі перайсьці да Саветаў. Аб падзеях у кажнай з гэтых мясцовасьцяў трэба даць весткі пасобна. На Случчыне-ж падзеі разьвінуліся гэтак.

У Слуцку ад 1917 году дзеіў Беларускі Нацыянальны Камітэт. Склад яго-нае управы зьмяняўся у залежнасьці ад розных палітычных і вайсковых абставінаў, але асноўны напрамак і дух працы заўсёды быў адзіны – імкненьне усімі сіламі дапамагчы стварэньню незалежнае Беларускае Народнае Рэспублікі.

Калі да Слуцку дайшла вестка аб падзеле, у горадзе і акрузе наступіла агульнае абурэньне ды непакой. Калі-ж пра некалькі дзён Слуцкі Беларускі Нацыянальны Камітэт даведаўся яшчэ, што польскія войскі, згодна з Рыскаю умовай, павінны адыйсьці са Случчыны і аддаць яе бальшавікам, абурэньне і непакой яшчэ больш павялічыліся. Абурэньне гэтае было тым большым яшчэ таму, што польскія улады свой намер аддаць Случчыну бальшавіком старанна утойвалі ад мясцовага жыхарства.

Беларускі Нацыянальны Камітэт у Слуцку ухваліў зараз-жа склікаць Зьезд Случчыны. Трэба тутака зацеміць, што у самым Нацыянальным Камітэце Случчыны, у сувязі з вайскова-палітычнымі абставінамі, распачалася нутраная барацьба паміж двума напрамкамі; беларускім незалежніцкім напрамкам, на чале з адвакатам Пракулевічам і палянафільскім крылом, якое ўзначальваў д-р Паўлюкевіч, які хацеў далучыць Беларусь да Польшчы. Аднак абсалютную пераваґу мелі прыхільнікі Незалежнай Беларусі.

Зьезд пачаўся 14-га лістапада 1920 году. На ім было 107 дэлегатаў ад 15-ці валасьцяў і гораду Слуцку. Адбываўся зьезд у вялікай залі будынку Вайніловічаў. Заля была прыбрана бел-чырвона-белымі сьцягамі і зеленьню. У прысутных быў сур'ёзны і ўсхваляваны

*З жыцьця ў Таронта*

## ДЗЕНЬ ГЕРОЯЎ БЕЛАРУСІ

У нядзелю 21 лістапада ў царкве Сьв. Кірылы Тураўскага а.Міраслаў адслужыў сьв. Літургію і пасьля яе багаслужба за памерлых — за Герояў Беларусі, у гонар памяці якіх трымалі ў часе багаслужбы сьцягі спсп. Кастусь Акула й Арсень Монід.

Урачыстай акадэміяй кіраваў сп. Аляксандар Насевіч. Ён зачытаў сымбалічны пералік Герояў Беларусі, якім ува ўнісон казалі прысутные: «Загінулі за волю Бацькаўшчыны». Ім, «што пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына», прагучэла й жалобныя песьня «Сьпі пад курганам Герояў...»

Даклад пра змаганьне беларускага народу за незалежнасьць, асабліва ў гадох ад 1917 па 1920, прачытала др. Раіса Жук-Грышкевіч. Яна шырэй затрымалася на змаганьні Случчыны за незалежнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі. Факт гэта яна падкрэсьліла, цытуючы словы генэрала Францішка Кушаля: «Слуцкае паўстаньне, якое пачалося 27 лістапада 1920 году, паводле падрыхтоўкі, арганізацыі й вядзеньня баёў справедлівей было-б назваць не паўстаньнем, а вайною паміж Беларускай Народнай Рэспублікай і Расеяй. Яно глыбака ўзварушыла нацыянальнае сумленьне шырокіх беларускіх масаў і хвалюе беларускія сэрцы й да сяньня».

На заканчэньне ўрачыстасьці былі прасьпяваны Героям Беларусі наш нацыянальны гімн, складзены слуцкім паўстанцам, пісьменьнікам Макаром Краўцовам, замучаным у засьценках НКВД — «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

**Раіса Жук-Грышкевіч**

*З жыцьця ў Нью-Джэрзі*

## СЛУЦКІЯ ЎГОДКІ

Задзіночаньне Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў, як і папярэднімі гадамі, адзначыла сёлета ўгодкі Слуцкага Чыну 1920 году. Напярэдадні ўрачыстасьці, што адбылася ў нядзелю 28 лістапада, на Беларускім могільніку ў Іст-Брансьвіку адбылося ўзлажэньне вянка пры помніку Беларускім гэроям і ўдэкараваньне магілаў.

У дзень сьвяткаваньня а. прат. Васіль Андрэюк адслужыў у царкве Жыровіцкай М Божай Маці ў Гайленд-Парку паніхіду. Залю Беларускага Грамадзкага Цэнтру ўпрыгожвалі ў гэты дзень сьвежыя абразы Віктара Маркаўца, здольнага мастака з Бацькаўшчыны. Урачыстую акадэмію адкрыў сп. Міхась Тулейка. Айцец Васіль сказаў малітву. Хвілінай цішыні ўшанавалі памяць нядаўна памерлых сяброў вэтэранскае арганізацыі і БАЗА.

У ўступным слове сп. Тулейка заклікаў адзначаць памяць Слуцкіх паўстанцаў гэтак-жа ўрачыста й людна, як і ўгодкі незалежнасьці БНР.

Др. Вітаўт Кіпель прачытаў цікавы даклад на тэму дня (зьмест дакладу гл. ў іншым месцы гэтага нумару).

У кароткім выступленьні др. Янка Запруднік гаварыў пра гістарычную цягласьць, якая надае сэнсу ахвяры, бо ўплывае на духовы стан наступных пакаленьняў. Ён прачытаў таксама прывітаньне ад Сойму БНФ «Адраджэньне».

Сп-ня Тамара Януш прадэклямавала два свае вершы пра родны край.

Для афармленьня залі ўрачыстай Акадэміі, прысьвечанай 73-яй гадавіне Слуцкага Збройнага Чыну, беларускі мастак Віктар Маркавец ветліва прадставіў фрагмэнты сэрыі «Помнікі Дойлідства Беларусі».

Свае творы ён выканаў у традыцыйным для беларускага народнага мастацтва стылі «Маляванак». Гэты стыль быў найбольш распаўсюджаны ў Беларусі пры канцы XIX – пачатку XX стагодзьдзяў і знайшоў працяг у сучаснай мастацкай творчасьці.

Поўная выстава твораў Віктара Маркаўца з сэрыі «Помнікі Дойлідства Беларусі» адбываецца ў Мастацкай Бібліятэцы Ратгэрскага Унівэрсытэту.

Пасьля супольнага адсьпяваньня «Беларусь наша Маці-Краіна» сп. Пятро Скепка ўдала выступіў зь песьнямі й музыкай.

# ЗВАРОТ

### Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады да Беларуска-Амэрыканскай Інфармацыйнай Службы

Зьвярнуцца праз Вашу арганізацыю да жыхароў і арганізацый ЗША, якім не абыякa, адбудуцца ці не адбудуцца на Беларусі дэмакратычныя выбары, прымусілі нас наступныя абставіны.

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь пасьля таго, як адмовіў 442 тысячам грамадзян Беларусі, якія выказаліся за правядзеньне рэферэндуму аб перавыбраньні Вярхоўнага Савету, вымушаны быў прыняць заяву аб правядзеньні датэрміновых выбараў у сакавіку 1994 году. Дэмакратычныя сілы прыкладаюць намаганьні, каб выбары адбыліся. У любым выбарчым працэсе роля сродкаў масавай інфармацыі (газэты, радыё і тэлебачаньне) — галоўная. У цяперашні час на Беларусі сродкі масавай інфармацыі знаходзяцца ў руках сілаў, якія стаяць на пракамуністычных пазыцыях. Мы вельмі занепакоены тым, што ня маючы вольнага доступу да іх, дэмакратычныя кандыдаты ня змогуць давесьці свае погляды да большасьці выбаршчыкаў.

Улічваючы гэтыя абставіны, а таксама выказваньне дзяржсакратара ЗША сп. Крыстафэра аб тым, што ўрад ЗША гатовы аказаць тэхнічную дапамогу для правядзеньня выбараў, мы просім Вас аказаць дапамогу БСДГ вылічальнай і капіравальнай тэхнікай, сродкамі сувязі, відэатэхнікай.

БСДГ у цяперашні час мае 47 дзеючых суполак, прычым яны знаходзяцца ў 16 буйных гарадах Беларусі, і штабкватэру ў Менску.

З павагай і надзеяй на дапамогу

Менск, 28 кастрычніка 1993 г.

**А. Трусаў,**
Старшыня Цэнтральнай Рады БСДГ,
член фракцыі ў Вярхоўным Савеце

**В. Алампіеў,**
Член фракцыі БСДГ
ў Вярхоўным Савеце

---

настрой, але разам з тым рашучы і ўрачысты. Прамовы былі кароткія, але палкія й рашучыя. Зьезд шкадаваў час і словы, бо ведаў, што надышлі гадзіны змаганьня.

Старшынёй Зьезду быў выбраны Васіль Русак, а ягоным заступнікам — адвакат Уладзімер Пракулевіч. Першае слова было дадзена эмісару беларускага эміграцыйнага ураду БНРъ Паўлу Жаўрыду, які абвесьціў Зьезду дэкрэт ураду Беларускае Народнае Рэспублікі аб сваім прызначэньні на Случчыну і аб наддазеных ему ўрадам БНР паўнамоцтвах. Зьезд горача вітаў прадстаўніка свайго ураду, ураду БНР.

Прамоўцы, якія выступалі пасьля эмісара БНР, Васіль Русак, адвакат Уладзімер Пракулевіч, капітан Анцыповіч, капітан Самусевіч, Юльян Сасноўскі, Рыгор Грынько ды іншыя, рашуча падкрэсьлівалі, што Случчына ніколі не прзнавала і ня будзе прызнаваць на сваёй тэрыторыі іншае улады, апрача сваёй беларускай нацыянальнай улады, ураду Беларускай Народнай Рэспублікі. Усе яны горача заклікілі Зьезд зараз-жа арганізаваць збройны адпор падрыхтаваным да наступу бальшавіцкім палкам і выкарыстаць з гэтай мэтай у першую чаргу Беларускую Міліцыю, якая раней была ужо арганізаваная Беларускім Нацыянальным Камітэтам на Случчыне.

Зьезд аднагалосна далучыўся да гэтых заклікаў, вынес адпаведную пастанову і выбраў Раду Случчыны, якой перадаў усю уладу на Случчыне і даў самыя шырокія паўнамоцтвы у справе арганізацыі вайсковае акцыі. У Раду Случчыны былі выбраныя 17 асобаў: старшыня — адвакат Уладзімер Пракулевіч, сябры — Васіль Русак, Іван Бірукевіч, Аляксей Кабычкін, Юльян Сасноўскі, Рыгор Грынько, капітан Анцыповіч, Паўло Банн, капітан Сокал-Кутылоўскі ды яшчэ 8 асобаў, прозьвішчаў якіх цяпер ня маемо пад рукамі.

Беларуская Міліцыя, якая ахоўвала парадак на Случчыне, мела усяго адзін узброены батальён з 500 міліцыянэраў, якія былі параскіданыя ротамі, зьвязамі, дружынамі і групамі па усёй Случчыне. Камандаваў батальёнам Беларускай Міліцыі капітан Анцыповіч. Рада Случчыны зараз-жа даручыла капітану Анцыповічу папоўніць ягоны батальён новымі дабраахвотнікамі і разгарнуць яго у 1-ты Слуцкі полк.

Зьезд Случчыны закончыў сваю працу у адзін дзень, і ужо ўвечары делегаты зьезду, атрымаўшы на рукі тэкст пастановы зьезду аб збройным змаганьні з бальшавікамі, а таксама й паўнамоцтвы на вярбоўку дабраахвотнікаў, — разьехаліся па сваіх валасьцёх, каб арганізаваць даручаную ім працу.

З Быстрыцкай, Вызьнянскай, Грозаўскай„ Грэскай, Нараўскай, Капыльскай, Раманоўскай, Чапліцкай, Старобінскай і Цішкавіцкай валасьцяў пачалі зьбірацца дабраахвотнікі. Усюды на мясцох, па вёсках і мястэчках утварыліся нацыянальныя камітэты, якія дапамагалі Радзе Случчыны праводзіць вярбоўку дабраахвотнікаў і аргнізаваць сваю збройную сілу.

У некалькі дзён укалектаваньне пасобных ротаў 1-га Слуцкага палку было закончанае і іх пачалі падцягваць бліжэй адна да аднэй. Аднак і савецкае войска не марудзіла і падыходзіло ужо да Асіповічаў ды Старых Дарог. Тольки што сфармаваным і недастаткова узброеным ротам утрымаць Слуцк было не пад сілу. Таму 24-га лістапада давялось Слуцк пакінуць і пачаць адыход на захад. Зборны пункт для новых дабраахвотнікаў таксама быў перанесены далей на захад, у Семяжова, дзе пад кіраўніцтвам падпалкоўніка Гаўрыловіча пачаў фармавацца 2-гі полк, які атрымаў назоў Грозаўскага.

Пачаліся баёвыя сутычкі з савецкімі часткамі. З абодвух бакоў былі ахвяры, але у случчакоў, якія добра ведалі мясцовасьць, гэтыя ахвяры былі меншымі. Ад 27-га лістапада баёвыя апэрацыі узмоцніліся і адбываліся штодня. Асабліва значныя баі адбыліся пры вёсках: Садавічы, Лошчава, Быстрыца, Вызна і Лютавічы ды пад мястэчкам Капыль.

У гэтую самую цяжкую для Слуцкае брыгады хвіліну, адбылася у ёй ганебная здрада: камандзір брыгады, капітан Гэнэральнага Штабу Чайка, кінуў брыгаду і перайшоў да ворага, перадаўшы бальшавіком усе весткі аб Слуцкай Беларускай брыгадзе і ейных плянах.

Здрада капітана Чайкі была цяжкім ударам для слуцкіх змагароў, але яна не зламала іхнага змагарнага духу. Ніхто з жаўнераў не пайшоў за капітанам Чайкай. Рада Случчыны зараз-жа выклікала у Семяжова капітана Сокал-Кутылоўскага і 3-га сьнежня даручыла ему камандаваньне брыгадай.

Баёвыя апэрацыі прадоўжваліся. Брыгада ня толькі адбівалася, але часам пераходзіла і у контр-наступ, адбіраючы ад ворага паасобныя вёскі ды забіраючы у палон чырвонаармейцаў. Аднак агульнае становішча брыгады усё больш пагоршвалася. Зброі для усіх дабраахвотнікаў не хапала і яе даводзілася адбіраць ад ворага. Набояў было па 3-5 на кажнага стральца. Трохі лепш было зь ежай, бо яе даводзілі з усіх бакоў беларуская сяляне з собскай ініцыятывы, а таксама зьбіралі беларускія нацыянальныя камітэты.

Польскія улады і польскае войска, якое мела усялякую падтрымку ад Антанты, магло-б шмат дапамагчы Слуцкай брыгадзе, але палякі, пабачыўшы зь якім запалам беларуская моладзь пайшла у сваё войска і зь якой адвагай яны біліся за сваю Бацькаўшчыну, не пажадала падтрымаць Слуцкую брыгаду, бо стварэньне запраўднае беларускае збройнае сілы зусім не супадала з плянам польскае захопніцкае палітыкі. Узброены беларускі народ не падпарадкаваўся-б падзелу ягонае зямлі паміж суседзямі. Таму палякі спакойна назіралі, як пад націскам савецкага войска увесь месяц сьнежань адбівалася й адыходзіла на захад Слуцкая Беларуская Брыгада.

Пакуль брыгада знаходзілася яшчэ на тэрыторыі Случчыны й на ўсход ад толькі-што праведзенае у Рызе мяжы падзелу Беларусі, палякі абмяжоўваліся толькіназіраньнем і выведам аб стане брыгады. Калі-ж Слуцкая брыгада змушаная была адыйсьці за раку Лань і заняла лінію фронту Мядзьведзічы, Сіняўка, Ляхавічы, Клецк, — палякі у канцы сьнежаня месяца 1920 году нечакана акружылі і абяззброілі брыгаду, а у лютым 1921 году усіх афіцэраў і стральцоў інтэрнавалі у Беластоцкім канцэнтрацыйным лягеры.

У Беластоцкім лягеры беларускія змагары Слуцкае брыгады прабылі за дротам ад пачатку лютага да паловы красавіка, а пасьля былі пераведзеныя ў Даратуск над Бугам, дзе знаходзіліся вялікія лягеры ваеннапалонных часоў 1-ае Сусьветнае вайны. Тут іх трымалі да канца траўня 1921 году. Пасьля іх пачалі паасобку адпушчаць на волю.

Гэтак закончылася жыцьцё Слуцкае Беларускае Брыгады. Але змаганьне случчакоў і беларускага народу за сваю волю і незалежную беларускую дзяржаву не спынялася і далей. І яно ня спыніцца пакуль беларускі народ не здабудзе Вольную і Незалежную Беларусь!

***З архіву спадарства Сурвіллаў***

# БЕЛАРУСКАЯ СЯРЭДНЯЯ ГАНДЛЁВА-АДМІНІСТРАЦЫЙНАЯ ШКОЛА Ў БАРАНАВІЧАХ

## (1942-1944 гг.)

**Успаміны**

Пасьля заканчэньньня 7-ае клясы пачатковае школы ў Ляхавічах я ўладзілася на летнія канікулы ў маленькім ляхавіцкім шпіталі як санітарка. Дырэктарам шпіталя быў др. Лобан. Ад яго я даведалася, што ў Баранавічах адкрываюцца сярэдня-прафэсійныя школы. Нягледзячы на ваенны час, наша інтэлігенцыя старалася штосьць ад немацаў здабыць, а менавіта хоць крыху асьветы для моладзі.

У Баранавічах у 1942 годзе былі адчыненыя сярэднія беларускія школы: тэхнічная (500 асоб — хлопцы), мэдычная (450 асоб — хлопцы і дзяўчаты), гандлёвая-адміністрацыйная (450 асоб — хлопцы і дзяўчаты), прагімназія, мастацкая, літаратурныя курсы, настаўніцкія. Моладзь у гэтых школах і на курсах была з навакольных вёсак, мястэчак і нават зь іншых паветаў ды акругаў.

Я залічылася на першы курс Гандлёва-адміністрацыйнай школы, дырэктарам якой быў Аляксандар Русак, а ягоным заступнікам — Кастусь Вадэйка. Праграма навучаньня была разьлічаная на чатыры гадавыя курсы. Два апошнія курсы рыхтавалі вучняў па спэцыяльнасьцях: стэнографы, адміністратары, тавараздаўцы, стэнографы, сакратаркі.

У 1943 годзе нашага дырэктара А. Русака паклікалі на становішча старшыні г. Баранавічаў. Дырэктарам школы стаўся К. Вадэйка, а ягоным намесьнікам — Мячыслаў Перагуд (Рагажэцкі).

Вучні па заканчэньні першага й другога курсаў, на час летніх вакацыяў, па магчымасьці адбывалі практыку ў адміністрацыі. У 1943/44 навучальным годзе я была ўжо на другім курсе. Хочацца мне адзначыць некаторых настаўнікаў і іхныя прадметы.

Беларускую мову выкладала ў нас Аўгенія Левановіч. Яна ўсю сваю душу і сілы ўкладала ў свой прадмет, хацела кожнаму вучню прышчапіць любоў, пашану да роднай мовы, культуры і літаратуры. Левановіч была кляснай апякункай нашай групы «А» і вяла літаратурна-драматычны гурток.

Альгебру і геамэтрыю выкладаў Мячыслаў Перагуд, вельмі сур'ёзны і вымагальны да свайго прадмету пэдагог.

Выкладчыкам гандлёвай арытмэтыкі быў Варанец, які вельмі дбаў, каб вучні знаалі табліцу множаньня (да 20) і розныя хуткія арытмэтычныя апэрацыі, як прыкладам: якія лічбы дзеляцца бяз рэшты на 3 ці 5?

Настаўнік агульнай бухгальтэрыі, Таргонскі, вельмі намагаўся данесьці да нас свой прадмет.

Тэхніку й арганізацыю гандлю ды каапэрацыю тлумачыла нам Тамара Кашкурэвіч, якая заўсёды пільна прыглядалася да паводзінаў кожнага пры адказах на ейныя пытаньні.

Таваразнаўства і карэспандэнцыю вучыла нас Белацаркоўская, сымпатычная асоба і выдатная выкладчыца.

Фізыку і хімію выкладаў сур'ёзны Арэнь.

Стэнаграфію мы апаноўвалі пад кіраўніцтвам Фуні Арабей, якая вельмі любіла свой прадмет і вымагала, каб вучні паважна да яго ставіліся.

Гісторыю Беларусі мы пазнавалі ад самога дырэктара К. Вадэйкі. Ён быў для кожнага бацькам, стараўся дапамагчы, параіць пры ўсякай патрэбе.

Вацлаў Пануцэвіч выкладаў у нас грамадазнаўства і быў таксама заўсёды гатовы кожнаму дапамагчы ў цяжкіх ваенных абставінах.

Выкладаліся ў нас таксама нямецкая мова, сьпевы, фізычнае ўзгадаваньне. У школе былі гурткі: літаратурна-драматычны, харавы, танцавальны, фізкультурны і музычны.

Гандлёва-адміністрацыйная школа вельмі цесна супрацоўнічала з Мэдычнаю. Была супольная бурса для дзяўчат, супольна ладзілі розныя сьвяткаваньні. Дырэктарам Мэдычнае школы быў др. Віктар Войтанка, а ягоным заступнікам — а. Леў Гарошка. Працавалі там здольныя выкладчыкі-дактары: Смаршчок, Мінкевіч, Малецкі, Кароль і іншыя.

У 1943 годзе ў Менску паўстала арганізацыя — Саюз Беларускай Моладзі (СБМ), галоўнымі кіраўнікамі якога былі Міхась Ганько (для хлапцоў) і Надзея Абрамава ды ейныя памочніцы Лена і Зося Аляхновіч, Вэроніка і Анэля Катковіч, Надзя Міцкевіч і іншыя (для дзяўчат).

Уся школьная моладзь належала да СБМ. На зборках кіраўнікі вучылі любіць родную мову, літаратуру, гісторыю, вывучалі народныя і патрыятычныя песьні, гаварылі пра патрэбу змагацца за вольную і незалежную Беларусь.

Для кіраўнікоў СБМ наладзілі курсы ў Альбэртыне і Флёр'янаве.

У Баранавічах кіраўнікамі СБМ былі Раіса Кішкель, Карповіч, Лена Левановіч і іншыя. Дружыновай нашай групы СБМ была вучаніца трэцяга курсу Гандлёвай школы Лось, а галоўным кіраўніком хлапецкай групы быў Кастусь Гарошка.

Моладзь баранавіцкіх школаў любіла й паважала сваіх настаўнікаў і кіраўнікоў СБМ, бо яны вучылі нас любіць і шанаваць усё сваё, не шкадаваць працы на карысьць Беларусі. Шмат хто зь іх пасьля дорага паплаціўся за гэтую сваю патрыятычную працу, ато й загінуў у савецкіх турмах ці на высылцы. Але зярняты, кінутыя імі на глебу маладых душаў, у шмат якіх выпадках прарасьлі і далі добры плён.

**Юзэфа Найдзюк**

### *УДАКЛАДНЯЕМ БЕЛАРУСКІ ПРАВАПІС!*

Дзяржаўная камісія па ўдакладненьню правапісу беларускай літаратурнай мовы, якую ўзначальвае народны дэпутат і пісьменьнік Ніл Гілевіч, зьвянулася да грамадзян рэспублікі з заклікам узяць удзел у абмеркаваньні праблемаў беларускага правапісу, у якім цяпер пануе разнабой у сувязі з паваротам некаторых выданьняў да дарэформеннага правапісу. «Падобная 'самадзейнасьць' у такой жыцьцёва важнай і далікатнай сфэры як мова, — слушна зазначае камісія, — зьява вельмі шкодная».

Камісія вынесла на абмеркаваньне 15 найбольш вострых пытаньняў (гл. «Звязда», 25.IX) ды просіць слаць заўвагі і прапановы на адрас Інстытуту мовы імя Я. Коласа Акадэміі Навук Беларусі.

### ВОЛЬГА КОРБУТ ПРА СЯБЕ

Ньюёркская газэта «Новое Русское Слово» пачала 17 лістапада 1993 г. друкаваць з працягам успаміны былой чэмпіёнкі сьвету ў гімнастыцы, а цяпер трэнера амэрыканскіх гімнастак Вольгі Корбут пад заг. «Мая гісторыя».

ПАДРЫХТАВАНАЕ ДА ДРУКУ ВЫДАНЬНЕ

# БЕЛАРУСКАЯ ГІМНАЗІЯ ЙМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ Ў ЗАХОДНЯЙ НЯМЕЧЧЫНЕ: 1945-1950

**Аутар: Янка Максімюк**
**Выдавец: Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва**



*Настаўнікі Гімназіі імя Янкі Купалы ў Нямеччыне. Зьлева направа: першы рад — Аўген Кахаҥоўскі-Калубовіч, Натальля Орса, Іван Муха, Аляксандар Орса. Натальля Арсеньнева, Мячаслаў Рагажэцкі-Перагуд; другі рад — Аляксандар Акановіч, Францішак Кушаль, Гіпаліт Паланевіч.*

Кніга — першае большае дасьледваньне важнага эпізоду з жыцьця беларускае эміграцыі. У кнізе апісаныя паваенныя часы ў Заходняй Нямеччыне, арганізацыя беларускіх лягероў перамешчаных асобаў (Ды-Пі), пачаткі й праца беларускай гімназіі ймя Янкі Купалы ды пададзена цімала зьвестак пра іншыя беларускія школы, беларускае палітычнае, грамадзкае й рэлігійнае жыцьцё, беларускі скаўтынг ды біяграфіі беларускага актыву.

Аўтар прааналізаваў таксама лёсы выпускнікоў гімназіі ды даў шмат ацэнаў тагачаснае беларускае дзейнасьці з пэрспэктывы часу й пагляду новага беларускага пакаленьня. Кніга багата ілюстраваная й дакумэнтаваная. Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва зьбірае цяпер сродкі для выданьня гэтае кнігі; ахвяраваньні слаць на адрыс БІНіМу.

# КНІГА ПРА КУРАПАТЫ



Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва ў Нью Ёрку выдадзеная ў ангельскай і беларускай мовах кніга — дакумэнт эпохі — аб камуністычных злачынствах над беларускім народам у Курапатах каля Менску.

Кніга — поўная, ілюстраваная вэрсія справаздачы аб археалягічных раскопах пахаваньняў ва ўрочышчы Курапаты (Брод), Менскага раёну, Бараўлянскага сельсавету, якія былі праведзеныя сп.сп. Зянонам Пазьняком (старэйшы навуковы супрацоўнік), М.М. Крывальцэвічам (навуковы супрацоўнік) і А.В. Іовам, асьпірант, Інстытуту Гісторыі, былое АН БССР.

Гэтаксама ў кнізе выдрукаваныя ў арыгінале й перакладзе ў ангельскую мову артыкулы Зянона Пазьняка аб нарадагубстве ў Курапатах. Вокладка й афармленьне кнігі мастачкі Ірэны Рагалевіч-Дутко, друк Міколы Прускага.

Заданьнем кажнае беларускае арганізацыі — даручыць гэты дакумэнт урадавым колам, навуковым інстытуцыям ды установам, якія займаюцца вывучэньнем эпохі бальшавізму ды злачынстваў тае сыстэмы. Кнігу можна набываць у БІНіМе, цана яе 10.00 ам. дал., пішучы на адрас:

Belarusan Institute of Arts and Sciences, Inc.
230 Springfield Ave.
Rutherford, N.J. 07070

# 34-ТЫ АГУЛЬНЫ ЗЬЕЗД ЗГУРТАВАНЬНЯ БЕЛАРУСАЎ КАНАДЫ

Маятнік часу выбіў для Згуртаваньня Беларусаў Канады 45 гадоў. ЗБК адзначыла свой дзень нарадзінаў 20-га лістапада выстаўкай з свае дзейнасьці за 45, кажэце што хочаце, але дзейных і творчых гадоў. У залі Беларускага Рэлігійна-Грамадзкага Цэнтру (БРГЦ) ў Таронта на сьцяне пад сэрыяй партрэтаў беларускіх дзеячоў, пачынаючы ад Рагнеды й Рагвалода, вывешаныя ў рад таблічкі, што апісваюць з году ў год, пачынаючы ад 1948 аж да 1993, найважнейшыя падзеі і дасягненьні ЗБК — ягоная «хроніка». А на чатырох сталох уздоўж сьцяны з «хронікай» — дакумэнты яе. Выстаўку наладзіла др. Раіса Жук-Грышкевіч.

Свой юбілей ЗБК адзначыла таксама 34-ым агульным зьездам, што адбыўся 20-га лістапада ў залі БРГЦ у Таронта. Адкрыў зьезд старшыня ўступаючай галоўнай управы ЗБК сп. Мікола Ганько. Ён прачытаў прывітаньне зьезду ад старшыні галоўнай управы БАЗА сп. Антона Шукелойця.

Мандатная камісія ў складзе спсп. Віктара Касьцюкевіча, Арсеня Моніда й Кастуся Каранеўскага, праверыўшы мандаты, абвесьціла зьезд правомоцным. Прэзыдыюм у складзе старшыні — сп. Віктара Касьцюкевіча, сакратара — др. Раісы Жук-Грышкевіч і сябры — сп. Барыса Кіркі праводзіў працу зьезду.

Зьезд пачаўся прачытанай сакратаром прэзыдыюму малітвай:

«Божа Усемагутны, мы слугі Твае й дзеці Беларускага Народу, славім Цябе, блаславім і дзякуем Табе за ласку даную нам 45 гадоў таму назад выканаць Волю Тваю праз заснаваньне першае ў Канадзе беларускае арганізацыі, якую мы назвалі Згуртаваньнем Беларусаў Канады. Мы верым, што гэта была Воля Твая, бо Ты сказаў: 'Нічога безь меня Вы ня можаце зрабіць'. Мы верым, што Ты нас паклікаў і паслаў праводзіць у нашай арганізацыі беларускую работу на Славу Табе і на карысьць нашага паняволенага Беларускага Народу.

Мы дзякуем Табе за накіраваньне й дапамогу ў нашай дзейнасьці. І молім Цябе: пашлі на нас ласку Духа Тваіго Сьвятога, каб Ён памагаў нам у згодзе, гармоніі, пашане й любові адзін да аданаго далей выконваць нашыя абавязкі, утрымоўваць дзейнай і карыснай для беларускай вызвольнай справы нашу арганізацыю — ЗБК. Памажы нам прадбаць ёй новых маладзейшых сяброў, каб яны годна занялі мейсца тых, якіх Ты ўжо паклікаў да Сябе, і прадаўжалі распачатую намі работу.

Просім Цябе, блаславі гэты наш 34-ты агульны зьезд Згуртаваньня Беларусаў Канады, каб ён прадуктыўна працаваў і выбраў зь сябе разумную, працаздольную управу.

Молім Цябе, не пакідай нас, памажы нам, барані нас ад ўсякага зла, дай нам розум і вытрываласьць у выконваньні нашых абавязкаў у адносінах да Цябе й нашага Беларускага Народу.

Слава Айцу і Сыну і Сьвятому Духу цяпер, заўсёды й на вякі вечныя. Амін.»

Справаздачы аддзелаў і галоўнае управы расказвалі пра дзейнасьць кіраўніцтва й сяброў ЗБК за апошнія два гады. А гады гэтыя наведалі тры яркія падзеі, якія зрабілі дабрадзейны ўплыў на жыцьцё й мараль нашага грамадства, а гэта: 20-я Сустрэча Беларусаў Паўночнай Амэрыкі, якую можна назваць і сусьветнай, бо ў ёй, апрача беларусаў зь іншых краінаў, бралі ўдзел прадстаўнікі Ураду Беларусі й Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» у 1992 г. ў ЗША; Зьезд Беларусаў Сьвету, і Трэцяя Палітычная Канфэрэнцыя ў Менску ў 1993 годзе. Кіраўніцтва й сябры ЗБК бралі ўдзел у гэтых гістарычных падзеях.

Сябры ЗБК, належачы і да іншых беларускіх арганізацыяў у Канадзе, працавалі й па лініі канадзкага Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, па лініі Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады, па лініі Канадзкага Фонду Дапамогі Ахвярам Чарнобыля ў Беларусі ды й па лініі прыходу Сьв. Кірылы Тураўскага БАПЦ у Таронта.

Апрача ўрачыстых адзначэньняў нацыянальных сьвятаў былі сьвяткаваньня 75-я ўгодкі Першга Ўсебеларускага Кангрэсу і 100-я ўгодкі ад нараджэньня Максіма Багдановіча. Штагоду бралі ўдзел у навуковых канфэрэнцыях, у наладжваньні беларускіх павільёнаў, у міжнародных фэстывалях. Штагоду адбываюцца паломніцтвы да Беларускага Крыжа ў прошчы ў Мідляндзе. Імпрэзай з адпаведнай выстаўкай адзначылі мы «Месяц гісторыі жанчыны» ў Таронта.

Па лініі палітычнай утрымоўвалі сталы кантакт зь Беларускім Народным фронтам «Адраджэньне», арганізавалі паездку групы беларусаў Канады на Першы Зьзд Беларусаў Сьвету, і на Трэцюю Ўсебеларускую Палітычную Канфэрэнцыю. Атаўскі аддзел ЗБК прымаў прадстаўнікоў БНФ сп. Валентына Голубева, сп-ню Валентыну Трыгубовіч, наладзіў ім сустрэчы з урадавымі дзейнікамі Канады ў Атаве.

Стараньнем Канадзскага Фонду Дапамогі Ахвярам Чарнобыля ў Беларусі, зарганізованага рэфэрэнтам рэпрэзэнтацыі ККБК сп-няй Івонкай Сурвіла, праз тры гады Канаду ўлетку наведваюць дзеці з заражаных радыяцыяй зонаў Беларусі. Фонд дзейны у аддзелах ЗБК у Атаве й Лёндане правінцыі Антарыё.

Старшыня ЗБК, сп. М. Ганько, браў удзел у сьвяткаваньні 1000-годзьдзя праваслаўнай царквы ў Беларусі.

На прапанову наглядные рады пад старшынством сп. Кастуся Акулы зьезд прызнаў уступаючым кіруючым і кантрольным органам абсалюторыюм з падзякай. Асаблівую падзяку атрымаў аддзел ЗБК ў Атаве, а паіменна спня Івонка Сурвіла.

У пляне працы зьезд даручыў галоўнай управе і аддзелам: збольшыць высілкі ў вербаваньні новых сяброў, асабліва малодшага пакаленьня; праводзіць большую нацыянальна-ўзгадаваўчую працу наладжваньнем лекцыяў-дакладаў для дзяцей. Агульным пажаданьнем было арганізаваць 21-ю Сустрэчу Беларусаў Паўночнай Амэрыкі ў Таронта.

Зьезд падкрэсьліў, што ЗБК павінна падтрымліваць і па магчымасьці супрацоўнічаць зь Беларускім Народным Фронтам «Адраджэньне» і таксама стацца сябрам Згуртаваньня Беларусаў Сьвету «Бацькаўшчына».

У галоўную управу ЗБК былі выбраныя: старшыня — сп. Мікола Ганько, сябры: спсп. Віктар Касьцюкевіч, Юрка Рапэцкі, Арсень Монід, Аляксандар Насевіч, Аляксандар Максімюк і Станіслаў Паўловіч.

У наглядную раду ўвайшлі спсп. Кастусь Акула, Барыс Кірка, Аркадзь Харавец.

Зьезд пастанавіў выслаць, запрапанаваныя др. Р. Жук-Грышкевіч, прывітальныя лісты: лідару БНФ «Адраджэньне» сп. Зянону Пазьняку, Старшыні Рады БНР др. Язэпу Сажычу й закладчыку ЗБК Кастусю Акулу.

У часе нарадаў зьезд наведаў сп. Рассэл Бартон, прадстаўнік з Дэпартанту для справаў шматкультуралізму. Ён расказаў пра магчымасьці атрыманьня нашай арганізацыяй фінансавай дапамогі ад Канадзскага ўраду, калі-б ЗБК арганізавала праект, які меў-бы на мэце памагаць нашым суродзічам у Канадзе актыўна ўключацца ў канадзкае жыцьцё.

Сваю працу зьезд закончыў адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі...»

Пасьля адбылася, прыгатваная стараньнем сп-ні Марыі Ганько, супольная вячэра.

**Раіса Жук-Грышкевіч**



*Новазбудаваная царква Сьв. Еўфрасіньні Полацкай на праваслаўным могільніку ў Беластоку. Фота А.Т.*

## НОВАЯ АНГЛАМОЎНАЯ БЕЛАРУСІКА

Пасля распаду Савецкага Саюзу і зьяўленьня на ёнай тэрыторыі незалежных дзяржаваў пачалі зьяўляцца ў амэрыканскіх выдавецтвах кнігі з апісаньнем кожнае новае рэспублікі. Нядаўна выйшлі тры гэткія кнігі, у кожнай зь якіх ёсьць асобны разьдзел пра Беларусь. Кароткае азнаямленьне зь імі падаём ніжэй.

**The Newly Independent States of Eurasia: Handbook of Former Soviet Republics**
(Нованезалежныя дзяржавы Эўразіі. Падручнік былых савецкіх рэспублік)
**Authors; Stephen K. Batalden and Sandra L. Batalden. Phoenix, AZ: OryxPress, 1993**

Разьдзел пра Беларусь у гэтай ілюстраванай картамі кнізе ўключае дэмаграфічную і іншую статыстыку; дадзеныя кароткае тапаграфічнае апісаньне, гістарычная даведка. Больш увагі прысьвечана сучасным праблемам; вынікі чарнобыльскай катастрофы, палітычныя зьмены, ваенная бясьпека, эканамічныя рэформы, мова, рэлігія і нацыянальная тоеснасьць Беларусі.

Разьдзел напісаны на аснове грунтоўнага азнаямленьня з англамоўнай дасьледніцкай літаратурай пра Беларусь апошняга часу. У бібліяграфічнай даведцы згадваюцца кнігі пра Беларусь Вітаўта й Зоры Кіпель, Н. Вакара, С. Горака, П. Вэкслера, Д. Марплса.

Геаграфічныя назовы ў гэтай кнізе, як і трэба, трансьлітараваныя зь беларускай мовы, а не з расейскае.

**The New Eurasia: A Guide to the Republics of the Former Soviet Union.** (Новая Эўразія. Даведнік рэспублік былого Савецкага Саюзу). **By David T. Twining. Westpost, CT: Praeger, 1993.**

У разьдзеле кнігі пра «Заходні рэгіён» (Беларусь, Малдову і Ўкраіну) зьмешчана карта Беларусі, сказана пра плошчу, жыхарства, структуру ўлады. Гістарычная даведка, на жаль, напісаная без належнага азнаямленьня з навуковай літаратурай. Ня зусім паінфармаваны аўтар і пра апошнія падзеі на Беларусі.

Кніжка Стэфана і Сандры Батальдэнтаў дае шырэйшую і больш дакладную інфармацыю пра Беларусь.

* * *

**Perestroika in the Soviet Republics: Documents on the National Question.** (Прабудова ў савецкіх рэспубліках. Дакументы па нацыянальным пытаньні). **Edited by Charles F. Furtado, Jr.. and Andrea Chandler. Boulder, CO: Westview Press, 1992**

У разьдзеле гэтай кнігі пад заг. «Дакумэнты зь Беларусі» зьмешчаныя: частка ліста беларускае інтэлігенцыі да М. Гарбачова (ліст 28-х зь 15.X.II.86); прамова Першага сакратара ЦК КПБ Я. Сакалова на пленуме ЦК КПБ 25.III.87; рапарт Дзяржаўнае камісіі БССР Савету Міністраў БССР у справе Курапатаў; праграма Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне»; супольная заява летувіскага «Саюдзіса» і БНФ і Дэклярацыя аб дзяржаўным сувэрэнітэце ВС БССР.

Сярод тых, каму рэдактары гэтага зборніка дакумэнтаў, які выйшаў пад грыфам Калюмбійскага Ўнівэрсытэту, дзякуюць да супрацоўніцтва, згадваюцца Вячаслаў Станкевіч і Янка Запруднік.

* * *

**Children of Chernobyl: Raising Hope from the Ashes** (Дзеці Чарнобыля. Здыманьне надзеі з попелу). **By Michelle Carter and Michael J. Christensen. Minneapolis: Augsburg, 1993.**

Уступ да гэтае кнігі пра беларускіх дзяцей, ахвяраў чарнобыльскае радыяцыі, напісала Вольга Корбут. Кніга расказвае з глыбокім суперажываньнем, цёпла й шчыра, пра акцыю дапамогі беларускім дзяцям, якую праводзяць сям'я амэрыканскага пастара Пола Мора і ягоная арганізацыя Сітыгоўп разам зь беларускім лекарамі, грамадзкімі дзеячамі й некаторымі афіцыйнымі асобамі РБ.

# БЕЛАРУСКА-ПОЛЬСКІЯ ДЫЧЫНЕНЬНІ Ў ВЯЛЕЙШЧЫНЕ (1941-1944 гг.)

*(Працяг. Пачатак у № 407)*

**Складаная сытуацыя ў Маладэчанскім павеце**

У паліцыі Маладэчанскага павету я спаткаў некалькі паліцыянтаў-беларусаў. Начальнікам паліцыі быў былы польскі паручык Крачэўскі, які беларускай мовы ня ведаў. Ягоным заступнікам быў апалячаны беларус Жылінскі. Малая камэра арыштаваных была перапоўненая сялянамі. Давялося ўсе справы пераглядаць асабіста і арыштаваных або звальняць або адсылаць у Вялейку. Асабліва няпрыемная справа была з Завадзкім зь вёскі Брускаўшчына. Пасьля «вызваленьня» Заходняй Беларусі бальшавікамі ён быў нялікім актывістам і, быццам-бы, дзякуючы яму некаторыя людзі былі вывезеныя ў Сібір. Абвінавачаньняў супраць Завадзкага было шмат, і я сам паехаў у Брускаўшчыну, каб дапытаць людзей на месцы. Ніхто там нічога добрага аб Завадзкім сказаць не хацеў.

Вяртаючыся ў Маладэчна, я заехаў да каталіцкага ксяндза ў Хажове. Ксёндз, малады яшчэ чалавек, які нядрэнна гутарыў па-беларуску, ахвотна даў мне інфамацыю аб Завадзкім. Гэта праўда, сказаў ён, што Завадзкі быў актывістам, але з нашага сельсавету толькі некалькі чалавек было вывезеных. Некаторыя-ж з кандыдатаў на вываз былі папярэджаныя і загадзе выехалі ў іншыя мясцовасьці. Папярэдзіў іх я, сказаў ксёндз, на просьбу Завадзкага.

Быў сьпісаны адпаведны пратакол сьледзтва, падпісаны ксяндзом, і ў тойжа самы дзеньЗавадскі быў ужо дома.

Незадоўга на маім прыездзе ў Маладэчна мне прышлося спаткацца і мець другія гутаркі з камісарам Вялейскай акргі Шмідтам і шэфам жандармэрыі лейтэнантам Новакам. Шмідт вельмі спрыяў беларусам, ведаў аб польска-беларускіх адносінах ды жадаў беларусізацыі адміністрацыі, паліцыі й школьніцтва — галіны, якія яму беспасярэдне былі падначаленыя. Рабіць беларусізацыю, казаў ён, трэба паступова, падшукваючы сьпярша адпаведных людзей-беларусаў, а ўжо пасьля звальняць палякоў, каб ня ўводзіць хаосу ў сяк-так зарганізаванай акрузе.

Маё прабываньне ў Маладэчне было кароткім, тыдняў 4-6, а пасьля Юстын Мурашка й я былі пасланыя ў Ашмяну, дзе сытуацыя была вельмі паганая і дзе палякі рабілі што толькі хацелі.

Па кароткім прабываньні з Ашмяне я быў пераведзены, ужо як паўнамоцны ад камісара, у Вялейку з мэтай паступовай беларусізацыі вышэй названых дзялянак (адміністрацыі, паліцыі, школьніцтва).

Шэф жандармэрыі, лейтэнант Новак, быў старэйшым чалавекам, знаў няггорш польскую мову (кашубскі дыялект) і хутка паміж намі наладзіліся прыязныя, нават сяброўскія дычыненьні.

Тымчасам трэба было сьпяшацца ды хоць збольшага зьбеларушчыць маладэчанскую паліцыю. Неўзабаве прыехаў да нас малады студэнт львоўскай палітыхнікі, як- стаўся маім заступнікам. Удалося завэрбаваць у паліцыю некалькі вартасных адзінак. Я аб'ехаў усе пасты паліцыі павету ды зрабіў, дзе было патрэбна, адпаведныя зьмены.

У самой управе павету ня было дрэнна. Начальнік Уневіч цікавіўся галоўным чынам спэцкуляцыяй, ягоны заступнік Вітальд Бурачэўскі быў добрым адміністратарам і супраць беларусаў ніякай шкоднай акцыі ня вёў. У самой управе палякоў і ня было, усё вялося на беларускай мове.

Школьным інспэктарам Н.М. я ня быў задаволены, але лепшага тымчасам ня было. Н.М. меў толькі тры клясы смаргонскай гандлёвай школы, чалавек да сужыцьця цяжкі, сварлівы і паміж ім ды Уневічам адносіны былі вельмі напружаныя. Уневіч, ведаючы ай маёй гутарцы з камісарам акругі і пра мае пагляды на Н.М., дамагаўся ад мяне іншага чалавека, але дзе-ж яго было ўзяць? Давялося пакінуць М. інспэктарам.

Тымчасам я даведаўся ад сакратаркі ўправы павету, што Уневіч перахоўвае нейкія сьпісы людзей. Пасьля доўгіх стараньняў мне ўдалося дастаць копіі гэтых сьпісаў. У іх, апрача прозьвішчат габрэяў (каля 400 чалавек) было дзесяць ці дванаццаць беларусаў, а на першым месцы — Н.М. На другі дзень па атрыманьні гэтай копіі прыехалі летувісы з экзэкуцыйнай каманды. М-ку я паведаміў асабіста пра нябясьпеку і той зараз-жа змыўся, сьпярша ў Менск, пазьней — у Ліду, а стуль у Глыбокае. Вось такім чынам я, ня хочучы, ўратаваў жыцьцё М-ку, якога летувісы шукалі па ўсім Маладэчне, каб зьліквідаваць супольна з габрэйскім насельніцтвам.

Уневіч даўгі час не даваў мне спакою, зусім слушна падазраючы, што я спрычыніўся на ўцёкаў школьнага інспэктара, але довдаў на гэта ня меў.

Працуючы пасьля ў нямецкім Гэстапа, Н.М. ня меў літасьці над людзьмі. Зь ягонымі ахвярамі я ўжо пазьней, у 1943 годзе, спаткаўся ў Асьвянціме (Аўшвіц), Біркенаў, найбольш жудасным канцэнтрацыйным лягеры апошняй сусьветнай вайны, куды мяне пасадзілі.

На пачатку кастрычніка 1941 году прыехаў у Маладэчна малады інжынер К... Паразумеўшыся з камісарам акругі, я запрапанаваў яму стацца начальнікам павету ў Валожыне, на што ён згадзіўся. На начальніка паліцыі таго-ж павету быў прызначаны А.С. Трэба адзначыць, што адміністрацыя й паліцыя Валожынскага павету перад гэтым была поўнасьцю ў польскіх руках. Асаблівай ненавісьцю да ўсяго беларускага адзначыўся начальнік павету Корсак, які меў посьветку ад БНК з Варшавы.

У другой палавіне кастрычніка Юстын Мурашка і я былі накіраваныя акруговым камісарам у Ашмяну — Мурашка, як начальнік павету, я — як начальнік паліцыі.

**Аляксандар Калодка**

*(Працяг у наступным нумары)*





*Баскетбалісты менскага Беларускага Спартовага Інстытуту пасьля гульні з камандай Ратгерскага Ўнівэрсытэту ў гор. Нью-Брансвіку, Н.-Дж., 23 лістапада мелі нагоду пазнаёміцца зь мясцовымі беларусамі, якія падтрымвалі іх на духу ў часе змаганьня і зь якімі наладзіліся сяброўскія сувязі.*

*Вынікі гульні (92:69 у карысьць гаспадароў) былі-б лепшымі для мянчанаў, калі-б беларускія спартоўцы ня былі здарожыўшыся ды ня згубілі падарозе чатырох сваіх калегаў, якія затрымаў дарожны выпадак і давялося пачынаць гульню бязь іх. Фота Сяргея Трыгубовіча.*

**«БЕЛАРУС ВІЛЕНШЧЫНЫ», № 1**

У расейскамоўнай віленскай грамадзка-палітычнай газэце «Эхо Литвы», органе Сойму і ўраду Летувіскай Рэспублікі (№215, 5.XI.1993) адна з 8 старонак азагалоўленая «Беларус Віленшчыны» і запоўненая беларускамоўным тэкстам. У звароце «Да чытачоў» ад Таварыства Беларускай Культуры сказана:

«Гэтая сьціплая старонка паказвае, што ня ўсе вакол нас адносяцца да нас няпрыхільна. Жывое друкаванае слова шмат што можа зьдзейсьніць.

«Мо гэты наш лісток на беларускай мове пакуль што толькі кволая іскрынка, але-ж разьдзьмухаўшы яе, можна распаліць і вогнішча, ля якога сагрэюцца схаладзелыя душы тых дарагіх землякоў, забыўшых сваё радзтво і племя дзе якім трэба крыху цяпла. Дык гуртуймася-ж, каб зьвінела наша песьня, гучэў прыгожы верш, цешыў вока бадзёры танец...

«Пішэце нам пра ўсё тое, што вас хвалюе, и пра тое, што хацелі-б вы даведацца з гэтае старонкі, дасылайце нам свае матэрыялы, працуйма разам...».

На старонцы зьмешчаныя мата-р'ялы: артыкул Лявона Луцкевіча пра граматыку Тарашкевіча (юбілей); даведка пра Віленскае Згуртаваньне Палітзьняволеных»; гутарка зь беларускім паслом у Летуве Ўладзімірам Шчасным; артыкул Аляксея Анішчыка пра Еўфрасіньню Полацкую; абвесткі.

Допісы, пажаданьні, заўвагі слаць на адрас: 2004 Вільнюс, вул. Сэлю, 21, кв.2 (тэл.: 44-90-01, 75-86-06 ад 47-15-49).

## Слуцкі Збройны Чын ў Гайлянд Парку, Нью Джэрзі

*(Працяг з б. 1)*

ЗША, у урадавыя друкі Канады, Ангельшчыны, Аўстраліі, ды ў шмат якія палітычныя календары. Дзень Слуцкага Змаганьня абвяшчаўся Беларускім Днём збройнага змаганьня з камунізмам у шмат якіх штатах Амэрыкі. Беларускія арганізацыі на эміграцыі задакумэнтавалі гэтую падзею ў гэткім самым вымярэньні як і Акт 25 Сакавіка, бо ў сваёй аснове — змаганьне на Случчыне ў 1920 годзе — гэта прадаўжэньне змаганьня за ужыцяўленьне сучаснае беларускае дзяржавы. Бясспрэчна, заслуга эміграцыі, што і гэты нацыянальны сымбаль-збройнае змаганьне Случчыны — упоруч і з іншымі нацыянальнымі адзнакамі — быў перахаваны й распраславаны.

І калі нам на Бацькаўшчыне кажуць, што вось як добра, што Вы там, на эміграцыі, перахавалі мову, звычаі і г.д., я асабіста ўважаю такі падыход як сэнтымэнтальна-спрошчаны. Не ў перахаваньні мовы значэньне эміграцыі (мова, хоць - не паўсюдна, і ня чыстая, але жыве, жыве на Бацькаўшчыне) але ў тым, што на эміграцыі перахавалася беларуская палітычная ідэя, прынцыпы беларускае дзяржаўнасьці, ды адзначэньне Слуцкага Змаганьня як сымбалю змаганьня за ідэю Беларускай Дзяржавы — Беларускае Народнае Рэспублікі.

**«Дазволены выезд за мяжу»**

Нядаўна менская «Звязда» паведаміла, што грамадзянам РБ дазваляецца выяжджаць у любую краіну на час ад аднаго году да пяцёх. За кожны ўмоўны год бярэцца плата ў памеры адней мінімальнай зарплаты і плюс яшчэ адна — за блянк пашпарту.

**Насьцярожанасьць Беларусі ў дычыненьні Чарнобыля**

Вярхоўны Савет РБ на паседжньні 3-га сьнежня вынес пастанову зьвярнуцца да ўраду Украіны, каб Украіна пераглядзела сваю пастанову трымаць у актыве нуклеарную энэргэтычную станцыю ў Чарнобылі.

# ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ І ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ

*СВАЯКОМ, ПРЫЯЦЕЛЯМ, ЗНАЁМЫМ І ЎСІМ СУРОДЗІЧАМ АД ШЧЫРАГА СЭРЦА ЖАДАЮЦЬ*

*Абрамчык Анна й Мікола*
*Азарка Марыя, Янка й Ірэна*
*Азарка Нона, Юрка, Хрыстафор і Марк*
*Акула Кастусь*
*Акуліч Лена і Адам зь сям'ёй*
*Андрусышын Юля, Павал, Юрка й Данчык*
*а. Андрэюк Васіль, матушка Вольга і дзеці Эля, Таіса й Даніла*
*Арцюх Лёля й Язэп*
*Бартуль Вера, Францішак зь сям'ёй*
*Брылеўскія Лянгіна й Уладзімер*
*Бяленіс Людвіка й Антон*
*Васілеўскі Лора, Павал і Галіна*
*Ганько Марыя й Мікола*
*Грэбень Мікола зь сям'ёй*
*Гутырчык Літвіна*
*Даніловіч Аляксандра й Бранілаў*
*Дубяга Ала, Віктар, Сьцяпан, Каця й Лана*
*Дубяга Жэня, Алег, Юліян й Тамаш*
*Дубяга Мальвіна, Генадзь, Таіса і Генадзь малодшы*
*Жызьнеўскія Анна й Нікодэм зь сям'ёй*
*Жук-Грышкевіч Раіса*
*Заморская Вера, Таня й Ніна*
*Запруднік Янка й Вера*
*Кажан Люба, Віталь, Маргарэта й Юля зь сям'ёй*
*Калоша Кастусь*
*Кананчук Тацьцяна й Андрэй*
*Каранеўскія Гэля, Міхась, Ванда, Ядзя, Караліна, Дануся й Міхась малодшы*
*Каханоўская Іна*
*Каханоўская Яніна*
*Кіпель Зора й Вітаўт*
*Кіпель Алеся*
*Кіпель Лёрэйн і Юрка зь сям'ёй*
*Кольба Тамара й Аляксандар*
*Кушаль Натальля*
*Лашук Аляксандар*
*Літвіненка Янка*
*Лукашэвіч Оля, Віктар, Коля й Стывэн*
*Махнач Ванда й Міхась*
*Мельяновіч Далорэс і Васіль*
*Мерляк Ганна й Кастусь*
*Міхалюк Лёля й Янка*
*Непейн Надзя й Аляксандар*
*Норык Кінуся Лёня й дзеці*
*Орса-Рамана Алла й Францішак, Павал і Коля*
*Патапенка Марыя і Віктар*
*Пашкевіч Валянтына й Міхал зь сям'ёй*
*Прускі Вера й Мікола зь сям'ёй*
*Ракуць Ліда й Валодзя*
*Рамук Вера й Вітаўт зь сям'ёй*
*Русак Галіна й Васіль зь сям'ёй*
*Сапежынская Алена, Якуб, Мацей, Мікалай і Юстын*
*Сільвановіч Ніна, Аляксандар і Андрэй*
*Стагановіч Марыя й Лявон*
*Станкевіч Раіса*
*Стрэчань Андрэй зь сям'ёй*
*Субота Кацярына й Адоль*
*Сурвіла Івонка й Янка зь дзецьмі*
*Сяргіевіч Марыя й Васіль*
*Трыгубовіч Сяргей*
*Тулейка Вольга й Міхась*
*Ханенка Ліда, Янка й Янка малодшы*
*Ханяўка Марыя, дачка Рагнеда і ўнук Даніла*
*Шукелайць Антон*
*Шуст Галена й Мікола*
*Чарнэцкая Аляксандра*
*Яновіч Валентына й Янка*
*Яраховіч Оля, Астап, Андрэй і Даніла*




































## ЗВАРОТ

### да берасьцейцаў у сьвеце

Шаноўныя землякі!

У сувязі з надыходзячымі 975-ўгодкамі старажытнага й слаўнага места Берасьця маем радасьць і гонар запрасіць усіх, хто да роднай зямлі ласку мае, на сьвяткаваньне юбілею гораду Берасьця, на фэст берасьцейцаў. Мы чакаем усіх, хто нарадзіўся, жыў, альбо чые продкі паходзяць зь Берасьця й гарадоў і вёсак Заходняга Палесься. Мы спадзяемся, што адгукнуцца ўсе, каму сустрэча з роднымі мясьцінамі на Палесьсі — як гаючая вада на сэрца, якая прыносіць радасьць ды пяшчотныя ўспаміны. Мы чакаем вас, берасьцейцы, 26-29 ліпеня 1994 году ў старажытным Берасьці.

Берасьце — адзін са старажытнейшых гарадоў Беларусі, які знаходзіцца на беларуска--польска-ўкраінскім памежжы, паміж Захадам і Усходам. Тут здаўна ўжываліся розныя народы, рэлігіі й культуры. Мы лічым, што сьвята гораду, які зьяўляецца галоўным адміністрацыйным і культурным цэнтрам Заходняга Палесься, немагчымае безь яго людзей, якія жылі й якія жывуць у ім цяпер, славутых і палякаў, гэбрэяў і іншых людзей, якіх лёс раскідаў ня толькі на зямлі Беларусі, але й па ўсіх кутках сьвету. Усе яны ўнесьлі свой уклад у нашу багатую спадчыну.

Мы спадзяемся на разуменьне ідэі правядзеньня фэсту берасьцейцаў падчас сьвяткаваньня 975-годзьдзя Берасьця й мяркуем, што ўсе тыя непаразуменьні, якія калісьці былі сярод берасьцейцаў розных культур і рэлігіяў, адыйдуць у мінулае ў імя Адраджэньня, у імя росквіту нашага палескага краю.

Грамадзкае аб'яднаньне «Стары горад», якое выступіла зь ініцыятывай правядзеньня фэсту берасьцейцаў, просіць усіх, каго зацікавіла гэтая імпрэза, хто зацеў-бы прыехаць на сьвята гораду, адгукнуцца й напісаць нам на адрас:

224000 Рэспубліка Беларусь, г. Берасьце, паштамт, а/с 40, «Стары горад».

Ад рэдакцыі. Калектыўныя заяўкі на ўдзел у сьвяткаваньні 975-годзьдзя Берасьця таксама можна накіроўваць у Пасольства Рэспублікі Беларусь у ЗША на наступны адрас: 1619 New Hampshire Avenue, N.W. Washington, D.C. 20009, Embassy of Belarus.



**БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ ЦАРКВА** кіраваная яп. Э. Рыжым вітае сваіх пасьлядоўнікаў і **БЕЛАРУСКАЕ ГРАМАДЗТВА** з Сьвяточным Сэзонам

**Айца Міхася Страпка**
**Вітаюць з 75-і ўгодкамі ад нараджэньня**

*Гал. управа БАЗА й газ. Беларус*

## THE EUROPA WORLD YEAR-BOOK 1993
## ГАДАВІК СЬВЕТУ 1993. ВЫД. «ЭЎРОПА»

Ангельскае выдавецтва Europa Publications выдае штагоду вялікі, цяпер двутомны, даведнік, у якім дэтальна апісываюцца больш за 200 краін і тэрыторыяў сьвету. Даведнік выходзіць ад 1926 году. Апісваюцца ў ім навейшая гісторыя, эканоміка, асьвета, абарона, палітычная структура, рэлігія, склад насельніцтва і г.д. кожнай краіны. У кнізе шмат статыстыкі, табліцаў, дадзеных аб тэрыторыі, прамысловасьці, сельскай гаспадарцы, гандлі, фінансах, транспарце, выдавецтвах, сродках масавай інфармацыі і г.д. Словам, вельмі патрэбная кніжка для кожнага, хто цікавіцца іншымі краінамі.

У выданьні 1993 году першы раз апісаная і Беларусь як асобная дзяржава. Натуральна, мяне гэта зацікавіла.

Беларусь апісаная вельмі дэтальна, але прозьвішча аўтара ці аўтараў не пададзена.

У апісаньні Беларусі ёсьць пэўныя недакладнасьці, відавочная расейшчына, а таксама непрапарцыянальна шмат месца адведзена некаторым тэмам — прыкладам, каталіцкай рэлігіі. Згадаю тот толькі недахопы, што адразу-ж кідаюцца ў вочы.

У тэксьце прыметнік «беларускі» пішацца Belorussian, замест больш адпаведнага Belarusan ці Belarusian, а сам назоў «Беларусь» пішацца памылкова па-старому — Belorrusia.

Што да апісаньня рэлігійнага стану Беларусі, дык тут насьвятленьне аднастароньняе. Усім ведама, што Белрусь галоўна праваслаўная краіна, хоць ёсьць там і іншыя кафэсіі: каталіцкая, пратэстанцкая, габрэйская, мусульманская. Паколькі да гэтага часу рэлігійнага перапісу на Беларусі ня было, ніхто дакладна ня ведае, колькі на Беларусі праваслаўных, каталікоў і г.д. Гэта, аднак, не перашкодзіла аўтару апісаньня Беларусі заявіць, што там каталікоў ацэньваецца на два мільёны. На маю думку, паўмільёна было-б бліжэй да праўды.

Хоць каталікоў на Беларусі мяншыня, чытаючы апісаньне атрымваецца ўражаньне, што да каталіцкае царквы належыць бальшыня жыхарства. Пад загалоўкам «Рэлігія» аўтар дакладна апісвае каталіцкую царкву на Беларусі; згадвае і грэка-каталіцкую (усяго разам 10 радкоў). У наступным-жа абзацы праваслаўнай царкве прысьвечана толькі два радкі — паўтараю, толькі два радкі! Мала гэтага, у адным месцы аўтар піша: «Галоўная рэлігія [на Беларусі] — хрысьціянства, рыма-каталіцкая царква і ўсходняя праваслаўная царква — найбольшыя канфэсіі». Ці-ж ня выходзіць з гэтага, што каталіцкая царква на Беларусі большая за праваслаўную?

Ёсьць і іншыя недакладнасьці. Прыкладам, аўтар піша аб падзеле «Польшчы», а ня Рэчыпаспалітае.

Транcьлітарацыя назоваў гарадоў Беларусі зроблена не зь беларускіх назоваў, а з расейскіх: Homiel напісаны Gomel, Hrodna – Grodno. Mahilou – Mogilev, Barysay – Borisov і г.д.

Аўтар гэтай рэцэнзіі напісаў доўгі ліст да ангельскіх выдаўцоў, у якім назваў недахопы і папрасіў, каб гэтыя памылкі былі перагледжаны і папраўлены ў наступных выданьнях.

Пабычым. **М. Швэдзюк**

### НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД БЕЛАРУСКАГА ІНСТЫТУТУ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА

| | |
|---|---|
| А. Ан-д (Англія) | ам. д. 1400 |
| др. М. Смаршчок | 100 |
| У. і Л. Брылеўскія | 100 |
| П. Кулеш | 50 |
| Ю. і Ч. Найдзюкі | 25 |
| У. Пелеса | 30 |
| У. Машанскі | 20 |
| М. Кавыль | 10 |
| Т. Каржаневіч | 20 |
| А. Дубяга | 2 |

***Просьба да чытачоў і ахвярадаўцаў***

**У СПРАВЕ РАЗЬЛІКУ ЗА ГАЗЭТУ**

Асобы, што дастаюць газэту ад нашага прадстаўніка сп. Браніслава Даніловіча, павінны зь ім і разьлічвацца, выпісваючы чэк на ягонае імя і перасылаючы на ягоны адрас:

B. Danilovich
303 Howard St.
New Brunswick, NJ 08901

**Адміністрацыя «Беларуса»**

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

*Прыслалі беспасярэдня ў Рэдакцыю ахвяры, падпіску і за калядныя віншаваньні:*

| | |
|---|---|
| М. Смаршчок | ам. д. 300 |
| А. Занковіч | 200 |
| Ф. Бартуль | 200 |
| В. і З. Кіпель | 125 |
| В. Грышчук | 125 |
| Н. Арсеньнева | 100 |
| Л. Дубовік | 100 |
| Ул. Набагез | 100 |
| В. Кажан | 100 |
| Я. Вініцкі | 100 |
| Я. Арцюх | 100 |
| Ул. і Л. Брылеўскія | 100 |
| К. і А. Мерляк | 100 |
| В. Заморская | 100 |
| М. і Н. Рагулі | 100 |
| І. Сядруа | 100 |
| Бел. Жан. Згурт. у Кліўлендзе | 100 |
| А. Костэр | 100 |
| В. Ягаўдзік | 100 |
| Л. і Э. Норыкі | 70 |
| В. і Л. Ракуць | 70 |
| У. Акавіты | 59 |
| Ю. Андрусышына | 50 |
| М. Грынчук | 50 |
| М. і В. Махнач | 50 |
| Н. Чупракоў | 50 |
| М. Калядка | 50 |
| Г. Сенькевіч | 50 |
| Ю. Касьцюкевіч | 50 |
| У. Пелеса | 50 |
| І. Каханоўская | 50 |
| О. Арэхва | 50 |
| Л. Мілер | 50 |
| Л. і А. Беленісы | 50 |
| Н. Мароз | 50 |
| В. Нафрановіч | 50 |
| Аддзел БАЗА ў Каліфорніі | 50 |
| М. Ракуць | 50 |
| М. Вайтовіч | 50 |
| Н. і А. Жызьнеўскія | 50 |
| К. і М. Верабей | 40 |
| А. Яновіч | 30 |
| В. Шчэцька | 30 |
| С. і Н. Дудар | 30 |
| А. Андрыца | 30 |
| М. Грэбень | 25 |
| С. Стаськевіч | 25 |
| Н. і І. Аляксандар | 25 |
| Ю. Мерляк | 25 |
| Я. Наваграцкі | 25 |
| С. Грамыка | 25 |
| Я. Сымчык | 25 |
| В. Ракуць | 25 |
| В. Трэмбіцкі | 25 |
| Р. Станкевіч | 20 |
| Я. Каханоўская | 20 |
| В. Рамук | 20 |
| С. Буткевіч | 20 |
| А. Мацукевіч | 20 |
| А. Чарнэцкая | 20 |
| С. Янкоўскі | 15 |
| М. Палюховіч | 15 |
| М. Латушкін | 15 |
| Я. Юхнавец | 10 |
| П. Бурдзь | кан. д. 65 |
| Згурт. Бел. у В. Брытаніі | анг.ф. 50 |
| Я. Міхалюк | анг. ф. 15 |

*Заміж кветак на магілу с.п. С. Карніловіча:*

| | |
|---|---|
| В. і М. Яцэвіч | ам. д. 100 |
| Р. Станкевіч | 50 |
| М. Ганько | 120 |
| Др. Я. Сажыч – замест кветак на магілу Сяргея Карніловіча | 100 |
| О. Грыцук | 100 |
| А. Тэлеш | 90 |
| Я. Сурвіла | 60 |
| П. Пашкевіч | 50 |
| Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады | 50 |
| М. Сьнежка | 50 |
| Р. Жук-Грышкевіч | 45 |
| Я. Дзядовіч, у памяць дарагога мужа Дзімітра | 30 |
| С. Трыгубовіч | 30 |
| П. Нягода | 30 |
| А.Д. Клімовіч | 25 |
| Л. Данілюк | 25 |
| Т. Супрун | 25 |
| В. Дутка | 25 |
| А. Кучура | 25 |
| А. Стукаліч | 25 |
| Н. Непейн | 20 |
| Л. Гутырчык | 20 |
| Б. Даніловіч | 20 |
| А. Субота | 20 |
| а. В. Андрэюк | 20 |
| М. Абрамчык | 20 |
| М. Тулейка | 20 |
| В. Русак | 20 |
| Я. Азарка | 20 |
| М. Каранеўскі | 20 |
| М. Ханяўка | 20 |
| В. Пашкевіч | 20 |
| Разам | 1145 |

*Ад нашага прадстаўніка сп. П. Барысіка ў Бэльгии:*

| | |
|---|---|
| А. Арэшка | бэльг. фр. 1000 |
| Р. Занькоўскі | 1000 |
| Л. Клыбік | 1000 |
| Я. Жучка | 1000 |
| З. Смаршчок | 1000 |
| П. Барысік | 500 |

*Ад нашага прадстаўніка сп. У. Акавітага ў Аўстраліі:*

| | |
|---|---|
| У. Акавіты | аўстр. д. 50 |
| а. М. Бурнос | 50 |
| Р. Пачопка | 50 |
| А. Руткевіч | 35 |
| Е. Трысмакова | 50 |
| У. Міленцэвіч | 50 |
| Я. Рольсан | 35 |
| А. Садоўскі | 50 |
| В. Зеленеўскі | 35 |

**Шчырая падзяка ўсім ахвярадаўцам, падпішчыкам і нашым прадстаўнікам!**

**Адміністрацыя «Беларуса»**